# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠĆYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Die Administration: (13 b) München 15, Pettenkoferstr. 23/I.
Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.
**Банкавае конто:** Administration der weissruthenischen Zeitung „Baćkauscyna“ Bankkontonummer 357-125 Bayerische Hypotheken- und Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 22 (252) — Нядзеля 29 травеня 1955 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 9


# Перад канфэрэнцыяй чатырох

Цэнтральнай палітычнай праблемай сяньняшняга дня як на Захадзе, гэтак і на Усходзе зьяўляецца справа заплянаванай канфэрэнцыі чатырох, г. зн. шэфаў урадаў чатырох вялікадзяржаваў — Задзіночаных Штатаў Амэрыкі, Вялікабрытаніі, Францыі й Савецкага Саюзу. Хаця канфэрэнцыя была заплянаваная на другую палавіну ліпеня, справа гэтае канфэрэнцыі і пытаньні, што маюць на ёй абгаварвацца, зьяўляюцца прадметам чуць ня штодзенных выказваньняў адказных палітыкаў і ня сходзяць із шпальтаў прэсы. І гэта нічога дзіўнага, бо канфэрэнцыя мае быць прысьвечаная найважнейшым міжнародным праблемам апошняга часу, а праект ейнага скліканьня зрадзіўся яшчэ перад пару гадамі.

Як ведама ўжо, на парадку дня канфэрэнцыі маюць быць пастаўленыя такія важныя міжнародныя праблемы, як задзіночаньне Нямеччыны й падпісаньне зь ёю мірнага дагавору, справа разззбраеньняў і пытаньне сыстэмы эўрапэйскае бясьпечнасьці. Пытаньне першае і апошняе зьяўляюцца фактычна двума пунктамі аднае праблемы, якая, паводля савецкага праекту, зводзіцца да стварэньня пояса нэўтральных дзяржаваў ад Фінляндыі на поўначы і да Югаславіі на паўдні, сярэднюю частку якога тварыла-б знэўтралізаваная ўжо Аўстрыя і галоўна задзіночаная й знэўтралізаваная Нямеччына. Гэты знэўтралізаваны або санітарны пояс аддзяляў-бы капіталістычны Захад ад камуністычнага Усходу і быў-бы гарантыяй бясьпечнасьці апошняга і перадумовай мірнага суіснаваньня (коэгзыстэнцыі) між заходнім і ўсходнім блёкам.

Аб прапанаваным Саветамі поясе нэўтральных дзяржаваў мы шырака пісалі ў папярэднім нумары нашае газэты. Сяньня галоўна зьвернем увагу на тое, як прадстаўляе сабе гэты плян камуністычны Усход, а як дэмакратычны Захад, і якая рэакцыя абодвых на контрпраекты свіх праціўнікаў.

Заходнія дзяржавы ўжо дастаткова высказаліся, што савецкі плян нэўтралізацыі Нямеччыны і ўключэньня яе да прапанаванага Саветамі нэўтральнага пояса Захадам прыняты ня будзе. У Заходняй Нямеччыне ня толькі канцлер Адэнаўэр станоўча выступае супраць нэўтралізацыйнай канцэпцыі, але й лідэр апазыцыі, др. Ольленгаўэр, высказаўся супраць нэўтралізацыйнай канцэпцыі. Апошні выступае толькі супраць узбраеньня Нямеччыны перад спатканьнем вялікае чацьвёркі.

На асаблівую ўвагу заслугоўвае становішча ў гэтай справе Амэрыкі. Прэзыдэнт Айзэнгаўэр 18 травеня сёлета заявіў на прэсавай канфэрэнцыі, што ён не адкідае канцэпцыі нэўтральнага пояса, але трымаецца адначасна думкі, што знэўтралізаваныя дзяржавы мусілі-б быць узброенымі. Гэта абазначае, што кажная зь дзяржаваў, уваходзячых у нэўтральны пояс, мусіла-б мець свае збройныя сілы, каб гэтую нэўтральнасьць бараніць, падобна як гэта ёсьць у даўно нэўтральных Швайцарыі й Швэцыі і як мае цяпер быць і ў Аўстрыі.

Але тыдзень пазьней Амэрыка зрэвідавала і гэтую канцэпцыю. Міністар замежных справаў ЗША Джон Форстэр Дальлес на прэсавай канфэрэнцыі 24 травеня афіцыяльна падаў да ведама, што Задзіночаныя Штаты загарантавалі ўраду Нямецкай Фэдэральнай Рэспублікі, што яны станоўча супраць нэўтралізацыі як Нямецкай Фэдэральнай Рэспублікі, гэтак і эвэнтуальнай задзіночанай Нямеччыны. Дальлес заявіў, што прэзыдэнт Айзэнгаўэр упаўнамочыў яго паведаміць урад Нямецкай Фэдэральнай Рэспублікі церазь нямецкага пасла ў Вашынгтоне, што ранейшыя высказваньні прэзыдэнта не павінны быць тлумачаныя, як ягоная згода на нэўтралізацыю Нямеччыны. Айзэнгаўэр 18 травеня, высказваючыся аб эвэнтуальнай магчымасьці гутарак аб стварэньні пояса нэўтральных дзяржаваў, падчыркнуў, што разьвязаньне пытаньня Аўстрыі прадбачыць збройны нэўтралітэт, што зьяўляецца чымсьці іншым, як мілітарнае «вакуум» (парожняе месца).

Міністар Дальлес заявіў, што палітыка нэўтралітэту ня можа быць прытарнаваная да такой краіны, як Нямеччына. Можа гаварыць аб нэўтралітэце такой малой дзяржавы, якой ёсьць Аўстрыя, але нельга паверыць, каб хтосьці быў думкі, што 70-мільённы нямецкі народ з багатымі традыцыямі павінен адыгрываць ролю нэўтральнае дзяржавы. Таму, як і зазначыў прэзыдэнт Айзэнгаўэр, магла-б быць мова аб такім нэўтралітэце, які быў накінуты Аўстрыі, г. зн. аб збройным нэўтралітэце. У аўстрыяцкім мірным дагаворы не прадбачаныя ніякія граніцы для вялічыні аўстрыяцкай арміі. «Я ня веру, каб нямецкі народ або савецкі народ, або таксама заходнія народы хацелі-б бачыць Нямеччыну незалежнай дзяржавай зь неабмежаванай колькасна арміяй».

Асьветчаньне міністра Дальлеса і ягоная інтэрпрэтацыя словаў прэзыдэнта Айзэнгаўэра гаворыць за тым, што Амэрыка на будучай канфэрэнцыі чатырох будзе выступаць навет супраць збройнага нэўтралітэту Нямеччыны. Ясна, што такая пазыцыя Амэрыкі зьяўляецца далёкай ад зычэньняў Савецкага Саюзу, у плянах якога ня толькі нэўтральная Нямеччына, але й раззброеная.

Другой перадумовай, пад якой мог-бы Захад згадзіцца на стварэньне нэўтральнага пояса дзяржаваў, зьяўляецца пашырэньне гэтага пояса на некаторыя сатэлітныя дзяржавы, у першую чаргу на Польшчу, Чэхаславаччыну й Мадзяршчыну. Такі плян зьяўляецца асабліва папулярным у Вялікабрытаніі й Францыі. Прыхільнікі такога пляну ўважаюць, што гэткім спосабам сатэлітныя дзяржавы маглі-б без вайны аднавіць сваю вольнасьць і незалежнасьць ды выйсьці з пад савецкае кантролі.

Аднак гэтыя пляны пашырэньня нэўтральнага пояса на сатэлітныя краіны спаткаліся з войстрымі й гвалтоўнымі нападамі маскоўскае «Праўды». Цэнтральны партыйны ворган, між іншым, піша: «Каб завуаляваць правал сваей палітыкі сілы, кіраўнікі амэрыканскага ўраду стараюцца пераканаць сваіх грамадзян, што падпісаньне мірнага дагавору з Аўстрыяй было перамогай гэтай палітыкі сілы. Гэты вынаход мае быць абаснаваньнем для дзікіх прапазыцыяў, што шэфы чатырох урадаў павінны дыскутаваць над пытаньнем аднаўленьня старых рэжымаў у краінах народных дэмакрацыяў і над пытаньнем забароны прагрэсыўных камуністычных рухаў у капіталістычных краінах... Ня можа быць і мовы, каб гэтыя пытаньні былі навет закранутыя. «Праўда» называе такія патрабаваньні Захаду ягонай спробай «умешваньня ў нутраныя справы вольных суверэнных народаў».

Прыведзеная заява «Праўды» гаворыць за тым, што Саветы ня згодзяцца навет гутарыць аб пытаньні расшырэньня пояса нэўтральных дзяржаваў на сатэлітныя краіны. Такая станоўчая пазыцыя Масквы ў гэтай справе з аднаго боку, як і апошняя заява міністра Дальлеса, што Амэрыка станоўча супраць нэўтралізацыі Нямеччыны, навет збройнай нэўтралізацыі — з другога ня толькі робяць мала праўдападобнымі якія-небудзь пазытыўныя вынікі будучай канфэрэнцыі, ня толькі могуць адсунуць ейны тэрмін, але ставяць пад знак запытаньня й самое скліканьне канфэрэнцыі.

(-іч)

# Паэта красы

**(Да 38-х угодкаў сьмерці Максіма Багдановіча)**

25-га траўня 1917 году ў ялтанскай санаторыі памёр ад сухотаў таленавіты паэта Максім Багдановіч. Яму было 26 год. Перадчасная сьмерць бязьлітасна спыніла маладое жыцьцё на шляху творчага росту.

Багдановіч аднак увайшоў у беларускую літаратуру як адзін зь лепшых мастакоў слова. Паэзія Максіма Багдановіча глыбока патрыятычная, прасякнутая гарачай любоўю да нашай бацькаўшчыны і яе мінуўшчыны, да народу, да роднай мовы і культуры.

Максім Багдановіч нарадзіўся ў 1891 годзе ў Менску, у сям'і ведамага беларускага вучонага-этнографа й гісторыка Адама Багдановіча. З самага дзяцінства ён цікавіўся беларускай народнай творчасьцяй. Беларускі фальклёр, зь якім Максім Багдановіч пазнаёміўся праз кнігі і зборнікі свайго бацькі, а таксама сусьветная клясычная літаратура, якую вывучаў у арыгіналах, зрабілі надзвычайны ўплыў на маладога паэту, на фармаваньне ягонай эстэтыкі.

Паэзія Багдановіча — простая і ўсім даступная: у ёй вычуваецца сьцісласьць вершу, дакладнасьць і маляўнічасьць эпітэтаў, хараство мэтафараў і параўнаньняў. Паэта шліфаваў старанна кажны свой верш. Нездарма яго назваў Максім Гарэцкі паэтам красы. Аб сваёй нястомнай працы ювэліра слова Багдановіч гаворыць у вершы «Песьняру»:

Трэба з сталі каваць, гартаваць
гібкі верш,
Абрабіць яго трэба зь цярпеньнем.
Як ударыш ты ім, — ён як звон
зазьвініць,
Брызнуць іскры з халодных
каменьняў.

На вузорах антычнае і заходня-эўрапэйскае літаратуры Максім Багдановіч паказаў сваё майстэрства ў галіне паэзіі, карыстаючыся ўсімі ведамымі формамі: санэтамі, трыялетамі, актавамі, тэрцынамі, рондо і іншымі.

Сваімі дасканалымі перакладамі ён давёў, што нашай мілагучнай беларускай мове ў ваднолькавай ступені даступны рытмы й мэтры Авідыя й Гарацыя, музыкальнасьць Гайнэ і Вэрхарна і складаная алітэрацыя, мэлядычнасьць ды чысьціня сугучча вершаў Вэрлена.

Высокай мсатацкай вартасьцяй адзначаюцца і тыя творы Багдановіча, у якіх праяўляецца хараство беларускіх народных песьняў, як, прыкладам, вершы: «Ой, лясы-бары», «Сярод вуліцы ў нас карагод», «У мястэчку Берасьцечку», «Цёмнай ноччу лучына дагарэла», «Ня кувай ты, шэрая зязюля».

Бальшавіцкія крытыкі намагаюцца выставіць Багдановіча ў чырвоным сьвятле. Яны гавораць аб тым, што Максім Багдановіч цесна быў зьвязаны з «братняй» расейскай культурай і варожа ставіўся да заходняй. Гэтыя крытыкі із скуры лезуць, каб давесьці, што Багдановіч быў праціўнікам г. зв. «бязродных касмапалітаў», што ён быццам-бы заклікаў народ у сваіх творах супраць «нізкапаклоньніцтва перад Захадам».

Аднак гэтая камуністычная хлусьня лёгка выкрываецца, калі прачытаем усе творы Багдановіча, калі прасочым, зь якой любасьцяй зробленыя ім пераклады Шылера, Гайнэ, Вэрлена й Вэрхарда.

Багдановіч у артыкуле «Забыты шлях» пісаў: «Намагаючыся зрабіць нашу паэзію ня толькі мовай, але духам і складам твораў шчыра беларускай, мы зрабілі-б цяжкую памылку, калі-б кінулі тую вывучку, што нам давала сьветавая, найчасьцей эўрапэйская, паэзія.

І далей аўтар зазначыў: «Было-б горш чым нядбальствам, нічога ня ўзяць з таго, што соткі народаў праз тысячы год сабіралі ў скарбніцу сьветавой культуры».

Няпраўда, што Максім Багдановіч імкнуўся зблізіць беларускую літаратуру з расейскай культурай. Савецкія махляры спасылаюцца на той факт, што Максім Багдановіч пісаў вершы ня толькі пабеларуску, але й парасейску, ды захапляўся творамі Максіма Горкага. Не абмінаецца зацемка й аб тым, што Максім Горкі быў пратэктарам маладога таленту. І ўсё-ж, ня гледзячы на ўсё гэта, бальшавіцкая крытыка вымушана была прызнацца, што «цэнячы і любячы культуру вялікага расейскага народу, ён (Багдановіч) часам выказваў памылковыя думкі аб разьвіцьці беларускай культуры, адрываючы яе ад расейскай культуры».

Багдановіч быў патрыётам свае краіны — паняволенай Беларусі. Ягоныя вершы — гэта заклік да змаганьня за нацыянальную свабоду, ад якой прыйдзе і сацыяльны дабрабыт.

Таму і цяпер зьяўляюцца актуальнымі такія ягоныя творы, як «Мае песьні».

I.

Калі смутак моцна дзьме душу маю
І шкада мне дзён загубленых сваіх, —
Я паціху песьні сумныя пяю,
Ўсю жуду сваю выкладываю ў іх.
Ціха песьня разьліваецца, зьвініць,
Вымаўляе, як я моладасьць згубіў,
Як дагэтуль не патрапіў палюбіць,
І саўсім, бадай, праўдзіва шчэ ня жыў.

II.

А як родную згадаю старану,
Як згадаю яе беднасьць і нуду, —
Сэрца сьцісьнецца, і я пяяць пачну, —
Мо душу хоць трохі гэтым адвяду.
Грозна песьня разьліваецца, грыміць,
Долю горкую, мужыцкую кляне,
Бо нявідзімы ланцуг на іх вісіць,
Бо ім цяжка жыць у роднай старане.

Цяжка жыць у роднай старане беларусу-селяніну і сяньня, калі ланцуг прыгоньніцкай няволі, выкуты калгаснай сыстэмай, вісіць на шыі. Але жыве надзея на вызваленьне і моцна гучаць Багдановічаны словы:

...Сэрца пяе: ня нудзіся!
Прыйдзе вясна!

**К. Рамановіч**

# Кукурузная хвароба

Каб выратаваць заняпалую жывёлагодоўлю і разьвязаць збожжавую праблему, студзеньскі пленум ЦК камуністычнай партыі пастанавіў пасеяць 16 мільёнаў гэктараў кукурузы ў цэлым СССР супраць 3,5 мільёнаў гэктараў, якія былі пасеяныя ў мінулым годзе. Кукуруза цяпер прызнаная найважнейшай і найкаштаўнейшай збожжавай культурай. І калі да гэтага часу кукуруза лічылася паўдзённай расьлінай, бо яна любіць цяпло і пладавітую, добра ўгноеную глебу, то пленум ЦК прызнаў, што кліматычныя ўмовы аніколі ня перашкаджаюць ураджаю кукурузы. Сеяць яе павінны ў цэлым Савецкім Саюзе, навет у зонах вечнай мерзлаты — на Сахаліне, у Якутыі, Архангельскай вобласьці й г. д.

Пасьля пленуму ЦК ў сакавіку й красавіку адбыліся занальныя нарады работнікаў сельскае гаспадаркі. Нарады праводзіліся ў Саратаве, Варонежы, Маскве, Ленінградзе, Менску, Кіяве. На першых чатырох нарадах прыймаў удзел сам Хрушчоў, заступнік старшыні Савету міністраў СССР Лабанаў, сакратары абкомаў і старшыні аблвыканкомаў і шмат спэцыялістых сельскае гаспадаркі, у тым ліку й ведамы акадэмік Лысенка. На нарадах прысутнічала больш чымся 1 000—1 200 чалавек. Мэтаю гэтых нарадаў было высьвятліць хворыя бакі працы калгасаў і саўгасаў ды падчыркнуць кірунак сельскае гаспадаркі ў дадзенай зоне. Аднак на ўсіх нарадах Хрушчоў і дакладчык Лабанаў настойліва і ўпарта ўбівалі ў голаву ўдзельнікаў, што выратуе сельскую гаспадарку толькі кукуруза. Хрушчоў самаўпэўнена адкідаў навукова прызнаныя межы высьпяваньня кукурузы. Выступаючы на нарадзе работнікаў сельскае гаспадаркі нячорназёмнай паласы ў Маскве, ён цьвердзіў:

«Шмат нашых вучоных пашыраюць няправільныя пагляды, быццам-бы кукуруза паўдзённая культура, пасевы яе распаўсюджваньня абмежаваныя і што яна працаёмкая культура. Гэта няправільна. Цяпер мы яе як-бы «вызвалілі» і знайшлі мэтазгодным зьбіраць ў малочна-васковай сьпеласьці, не даводзячы яе зярня да сухасьці. Тым самым мы скасавалі межы распаўсюджваньня гэтай культуры. У мяне ёсьць дакумэнт аб тым, што кукуруза навет у Якутыі дала кіяхі».

Хрушчоў запэўняў, што нявысьпеўшыя засілаваныя кіяхі кукурузы паводля сваіх спажыўных якасьцяў стаяць выжэй любога збожжа, а паасобна засілаваная кукурузная расьліна ўзноў-жа дае высокаякасны сілос.

Прысутнічаўшы на нарадах акадэмік Лысенка зьмясьціў у «Праўдзе» за 27 красавіка сёлета вялікі артыкул «Праўдзём у жыцьцё пастановы студзенскага пленуму ЦК КПСС». Узнагароджаны шасьціма ордэнамі Леніна, неаднаразовы ляўрэат Сталінскіх прэміяў і герой сацыялістычнай працы, на працягу шмат гадоў непадзельны аўтарытэт у пытаньнях тэорыі й практыкі сельскае гаспадаркі, акадэмік Лысенка пакорна сьхіліў сваю вучоную галаву перад «адкрыцьцём» Хрушчова аб новых, невядомых дагэтуль якасьцях кукурузы. Ня гледзячы на тое, што кукуруза ў сусьветным земляробстве займае другое месца пасьля пшаніцы, ён у сваім артыкуле пісаў:

«Кукуруза — даўно вядомая культура. Яе заўсёды сеялі дзеля атрыманьня высьпеўшага сухога зярня... Зусім другі падыход да скарыстаньня кукурузы паказаў студзенскі пленум ЦК КПСС. У пастанове пленуму, у дакладзе таварыша Н. С. Хрушчова адкрыліся новыя вялікія патэнцыяльныя магчымасьці кукурузы».

Спасылаючыся на брашурку дасьледавальнай станцыі ў Комі-АССР, акадэмік Лысенка адцеміў:

«Магу прызнацца, што да перагляду ўспомненай брашуры я, як працаўнік навукі, аб магчымасьцях такіх высокіх прыростаў каштоўнай кармовай масы ня толькі ня ведаў, але й не прадбачваў».

Выходзіць, што ордэнаносны акадэмік вырашыў сусьветнага значэньня праблемы сельскае гаспадаркі, а на асаблівыя якасьці кукурузы яму адчыніў вочы толькі пленум ЦК і Хрушчоў.

Нядаўна ў Менску былі адкрытыя кароткатэрміновыя курсы для будучых старшыняў калгасаў. Слухачы курсаў — камуністыя, якія выказалі жаданьне працаваць у калгасах. На адкрыцьці курсаў выступіў з прамоваю сакратар ЦК камуністычнй партыі Беларусі Патолічаў. Ён з націскам адцеміў, што ў гэтым годзе калгасы Беларусі павінны засеяць на зярнё ня менш 300 тысяч гэктараў кукурузы і на зялёную падкормку — 70—100 тысячаў гэктараў.

Першае знаёмства беларускіх калгасьнікаў з кукурузаю адбылося ў мінулым годзе. Летась калгасы Беларусі пасеялі кукурузы 48 тысяч гэктараў. Сеяць кукурузу ў калгасах прыйдзецца ўручную, бо «савецкая магутная тэхніка» яшчэ ня ўсьпела сканструаваць машынаў для сяяньня гэтае культуры. Міністар сельскае гаспадаркі БССР С. Касьцюк на нарадзе спэцыялістых сельскае гаспадаркі ў Менску паставіў перад калгасамі і немагчымыя да выконваньня патрабаваньні:

«Арганізаваць унесьці пад кукурузныя пасевы ня менш чымся 40—50 тонаў мясцовых угнаеньняў і 3—4 гэктары мінэральных угнаеньняў на адзін гэктар, своечасова падрыхтаваць насеньне і пасеяць толькі гняздовым спосабам.».

Сам міністар добра разумее, што калгасы ніякім чынам ня знойдуць у сябе каля 20 мільёнаў тонаў мясцовых угнаеньняў пад кукурузу. Згодна паведамленьня сакратара ЦК камуністычнай партыі Беларусі Патолічава, вывезена на калгасныя палі ў мінулым годзе сумлеўных 29 мільёнаў тонаў гною й торфу. Міністар, як і іншыя партыйныя й савецкія дзеячы прымушаныя застрахаваць сябе ад нечаканых выпадкаў няўдачаў. Толькі з гэтай прычыны Касьцюк патрабаваў пад кукурузу 20 мільёнаў тонаў гною.

Вынікі пасеваў кукурузы ў мінулым годзе ня пераканалі калгасьнікаў Беларусі ў яе надзвычайных каштоўных якасьцях. Калгасьнікі добра зразумелі, што ў гэтым годзе іх прымушаюць усе лепшыя землі адвесьці пад кукурузу, добра іх угноіць мясцовым гноем, пасеяць уручную, патраціць шмат працы, каб яна вырасла, і потым скарыстаць яе на сілос. Пры гэтым, каб даць месца кукурузе, прыйдзецца адмовіцца ад пасеваў

Заканчэньне на 4-ай балоне)

# Бойня у Ліенцы

(Да дзесятае гадавіны казацкае трагэдыі)

**АД РЭДАКЦЫІ: Зьмяшчаючы артыкул, напісаны адумыслова для «Бацькаўшчыны» выдатным казацкім журналістым сп. П. Паляковам з нагоды так сумнае гадавіны, Рэдакцыя выражае шчырае спачуваньне нашым сябром у змаганьні — Казакам. Ня можам не згадзіцца з аўтарам, што жудасны паступак заходніх саюзьнікаў апраўдаць нічым немагчыма. Боль Казакоў зразумелы нам тым больш, што й тысячы Беларусаў былі гэткім-жа шляхам выданы бальшавіком.**

✶

Маральны ўпадак сучаснага чалавецтва найбольш яскрава характарызуецца двума мамэнтамі: Катыням і Ліенцам. Трагэдыя Катыня, якую стараліся ўсімі спосабамі зацерці, стала вядомай усяму сьвету й паказвае натуру сучаснае Расеі й ейных кіраўнікоў. Трагэдыя Ліенца падае на сумленьне Захаду. Злачынства, спрычыненае Казакам у Ліенцы паказвае таксама й на бязьмежную неразважнасьць заходніх адказных дзейнікаў у пасьляваенныя дні, на неразважнасьць, якая яшчэ й сяньня мсьціцца на іх.

Гісторыя бальшавізму-камунізму ў Расеі — гэта ня што іншае, як цэлы шэраг злачынстваў супраць чалавецтва. І таму дзіўным і незразумелым становіцца факт, што Захад, які супрацьставіцца камуністычнай ідэялёгіі, дзесяць год таму сам дапамагаў бальшавіком у гэтых злачынствах.

✶

Яшчэ задоўга да капітуляцыі, Расейцы мелі сваіх агетаў ня толькі ў штабах і палітычных цэнтрах г. зв. «саюзьнікаў», але таксама й у Немцаў, карыстаючыся паслугамі як паасобных агентаў, так і цэлых арганізацыяў, як прыкладам НТС. Дзеля гэтага, калі, прыкладам, вялікі прыяцель Казакаў Немец др. А., што займаў вельмі высокае становішча ў часе вайны, прабаваў парадзіць камандуючаму 15-ым Казацкім Корпусам адарвацца ад праціўніка й адыйсьці ў загадзя яму прызначанае месца, дык з гэтага нічога ня выйшла. Цяпер ужо дакладна выясьнена, што лёс Казакаў быў вырашаны загадзя і іх зусім невыпадкова сабралі ў вузкай даліне Дравы, дзе іх было вельмі лёгка перабіць. Гэтак званы «Казацкі Стан», што знаходзіўся ў паўночнай Італіі, прайшоўшы Плёўкэн Пасс, прыбыў у даліну Дравы амаль адначасова з галоўнай масай войска 15-га Казацкага Корпусу. Каля 38 тысяч асобаў прыйшло сюды з Казацкім Станам. Першая Казацкая Дывізія пад камандай палкоўніка Вагнэра, другая — пад камандай фон Шульца й трэйцяя — пад камандай фон Рэнтэльна, 3-і, 360-ы й іншыя запасовыя палкі, што мелі ў сваім складзе па 2 800 жаўнераў, — усё гэта расьцягнулася ў вадным раёне ад Фолькэрмаркт-Кляґенфурт да Вільлях-Ліенц. Галоўная маса казацкіх уцекачоў, інвалідаў, хворых, старых, жанчын і дзяцей разьмясьцілася таксама ў непасярэдняй блізіні гарадка Ліенц-Ост Тіроль, акупаванага Ангельцамі. Ангельцы даўно й доўга ведалі Казакаў, а дзеля таго й належна да іх аднесьліся. Ахвіцэрам было пакінута аружжа. Людзей карміліі вельмі добра. Яны навет прасілі прадоўжваць заняткі ў ваддзелах, кажучы, што «Казакі нам хутка прыдадуцца». 24-га траўня былі наладжаныя камэдыйныя выбары «паходнага атамана», у якіх прынялі ўдзел прадстаўнікі ўсіх казацкіх аддзелаў. «Выбраным» аказаўся генэрал Паннвіц. На гэтых выбарах, у якасьці наглядальніка, прысутнічаў Ангелец, які, выступіўшы з прамовай, сказаў Казакам, што брытанскі ўрад бярэ іх пад сваю апеку й бальшавіком яны выданыя ня будуць; пры гэтым ён прасіў ня верыць ніякім чуткам ды ўтрымоўваць парадак і дысцыпліну.

Гэтак было ў вайсковых аддзелах. У лягеры-ж Пэгґец, каля Ліенцу, маёр Дэйвіс склікаў усіх казацкіх журналістых і пісьменьнікаў ды паведаміў іх, што Брытанцы жадаюць, каб Казакі мелі сваю газэту, для якое будуць прызначаныя адпаведныя сродкі; ён прасіў пры гэтым скласьці дакладныя сьпіскі ўсіх казацкіх журналістых, пісьменьнікаў і рэдактараў. Каб разьвеяць усе сумлевы, ён загадаў прывезьці кучы будаўлянага матар'ялу для пабудоваў, што меліся хутка пачацца. Ён тут-жа пачаў перамовы аб арганізаваньні артыстычнай групы для наладжаньня спэктакляў. І на спэктакль доўга чакаць не давялося...

Яшчэ 23-га траўня прадстаўнікі камандуючага групай ангельскіх войскаў маршала Александэра падпісалі ў Вене ўмову, паводля якой усе Казакі мелі быць выданыя бальшавіком. А 25-га новы «паходны атаман» Панвіц, аб'яжджае ўсе казацкія аддзелы й паведамляе іх яшчэ раз, што Казакі цяпер пад апекай Ангельцаў і, захоўваючы дысцыпліну й парадак, павінны слухаць беззасьцярожна ўсе іхныя загады. 26-га траўня ў ахвіцэраў была адабраная зброя, каб быццам замяніць яе на лепшую, ангельскую.

Адначасова палкоўніку Рагожыну, камандзеру абяззброенага «Расейскага Корпусу», што стаяў недалёка ад казацкіх аддзелаў, было загадана скласьці сьпіскі ўсіх Казакаў ягонага корпусу. Казакамжа ў казацкіх аддзелах было сурова заборонена здымаць пагоны ці ўніформу. Палкі працягвалі вайсковыя заняткі, уцекачы наладжвалі свае баракі. Казакі. верылі кажнаму слову ахвіцэраў шатляндзкіх аддзелаў і Каралеўскай Валійскай Гвардыі.

28-га траўня ахвіцэры з баёвых казацкіх аддзелаў былі пераведзеныя ў васобны ахвіцэрскі лягер, а ахвіцэры Казацкага Стану колькасьцяй 2 756 чалавек былі «запрошаныя» на нараду, якую мела адбыцць зь імі ангельскае камандаваньне. Падалі аўтамабілі. Рэчаў ніякіх браць не належала, таму што «нарада закончыцца каля 5—6 гадзіны». Спакойна, апрануўшы паводля загаду парадную ўніформу з усімі ардэнамі й выстраіўшыся аддзеламі, ахвіцэры занялі месца ў грузавікох. уся калёна рушыла ў кірунку Обэрдраўбургу. У дарозе, праяжджаючы праз лес, калёна была акружаная танкамі. Прывезеных у Шпітталь ахвіцэраў пакінулі нанач у казармах, якія моцна ахоўваліся ангельскімі аддзеламі, а на другі дзень іх сілай заладавалі й передалі бальшавіком у Грацы. Маёр Дэйвіс, які адправіў ахвіцэраў на «канфэрэнцыю», даўшы «слова гонару ангельскага ахвіцэра», што зь імі нічога ня здарыцца, аб'явіў застаўшымся ў Казацкім Стане, што ўсе яны, згодна Ялтанскага дагавору, будуць 1-га чэрвеня выданыя Расейцам.

Увесь камандны склад — ген. Красноў, ген. Шкуро, тысячы ахвіцэраў былі выданыя. Абезгалоўленая маса, кіраваная выпадковымі людзьмі, не знайшла нічога лепшага, як, ідучы крэсным ходам, сабрацца ўсім у вадным месцы (лягер Пеггец) і тут памерці, але не рэпатрыявацца. Думка, каб сабрацца ў вадным месцы, была, бяссумлеўна, падказаная Ангельцамі й Расейцамі. І калі раніцай Казакі — жанчыны, дзеці, старыя й інваліды сабраліся ў лягеры Пэгґец, а восем сьвятароў пры загадзя нарыхтаваных аўтарох пачалі службу й прычашчэньне прысутных некалькі дзясяткаў тысяч людзей, а дзесятай гадзіне падыйшоўшыя з усіх бакоў ангельскія аддзелы з танкамі й танкеткамі кінуліся на людзей, страляючы ім пад ногі, зьбіваючы з ног прыкладамі ці буковымі палкамі. Раненых і аглушаных падхоплівалі зь зямлі й укідвалі ў падыйшоўшыя грузавікі. Натоўп у паніцы кінуўся ў кірунку Дравы. Танкі раздушвалі жанчын і дзяцей. Жаўнеры прыкладамі й палкамі выбівалі з рук сьвятароў крыжы й Сьвятыя Дары, зрывалі зь іх аблачэньне, кідалі ў аўтамабілі. Спробы выскачыць з машыны канчаліся новым ударам прыкладу ці куляй. Сотні кінуліся ў раку. Патрулі, што стаялі на беразе, стралялі ў

(Заканчэньне на 4-ай балоне)

# Трагэдыя царквы ў Беларусі

Асабліва вялікую шкоду панесла за часы панаваньня на Беларусі Расейцаў нашая царква. Царская імпэрыя з часоў далучэньня нашай Бацькаўшчыны і аж да самое рэвалюцыі разглядала царкву, як магутны сяродак, пры дапамозе якога яна праводзіла сваю русыфікатарскую палітыку.

Яшчэ ў 1840 г. наносіцца першы ўдар. Расейскі імпэратар забараняе казаньні на беларускай мове. Беларускія сьвятары пачынаюць высяляцца ў глыб Расеі і замяняцца тымі, якія верна служылі інтарэсам «Матушки России». Гэты наступ давёў да таго, што к часу т. зв. рэвалюцыі 1917 г. на Беларусі царква была цалкам зрусыфікаваная. Чаго не ўдавалася зрабіць губэрнатарам і станавым прыставам, зрабілі «отцы Иоанны і игумены Феофилы». Беларусам штодзённа даводзілася, што ягоная мова гэта «мова мужыцкая», някультурная, што трэба вучыцца мовы расейскай. Гэта былі цяжкія часы, калі многія з нашых людзей перайшлі ў лягер ворага і дапамагалі яму зьнішчаць самы галоўны наш нацыянальны скарб — мову нашых дзядоў і прадзедаў. Шкода ад гэтага была настолькі вялікая, што мы і цяпер ня можам яе пазбыцца. Навет тут за мяжой, далёка ад родных ніў і палеткаў, мы адчуваем гэтае ліха. Выхаваныя на расейскі манер і назьбіраўшыся аб'едкаў сваіх акупантаў, асобныя Беларусы тыпу Івана Баранцэвіча і зараз выслугоўваюцца перад сваімі гаспадарамі з Усходу, абліваючы памыямі саміх сябе. Цікава было-б запытаць такіх суб'ектаў, ці шмат на сваім жыцьці яны спатыкалі Расейцаў, якія-б ганілі сваю нацыю? А калі спатыкалі, дык як-бы яны іх назвалі?

Із зьменай ладу манархічнага на сацыялістычны справа ў дачыненьні да царквы на Беларусі ня толькі не палепшылася, а сталася горшай у шмат разоў. Бальшавікі пачалі ліквідаваць, ня толькі сьвятароў, але навет сьвятыні, або зусім іх зьнішчаць, або ператвараць іх у склады, базы, клюбы, тэатры і інш. Як прыкра было глядзець на тое, што пазалочаныя купалы нашых цэркваў, якія раней зіхацелі пераліваміі на сонцы і відаць былі здалёк, паступова чарнелі, а самыя сьвятыні нагадвалі жахлівы малюнак як пасьля землятрасеньня або пагрому.

На сваім шляху змаганьня з рэлігіяй бальшавікі ўжывалі самыя разнастайныя мэтады, якія нязьменна прыводзілі да аднаго выніку — зьнішчэньня сьвятароў і цэркваў. У вадным выпадку яны абкладалі непасільным падаткам, якога выплаціць нельга было, у другім — яны арыштоўвалі настаяцеля, у трэйцім проста зьнішчалі сьвятыню. Запалоханыя людзі супраціўляліся слаба; больш сьмелых зь іх адразу хапалі і высялялі ў «места столь отдаленные», скуль павароту ня было.

У сяле Сялюты пад Віцебскам прыгожая сьвятыня была зачыненая і ператорная ў клюб, якога ніхто не наведваў, бо жыхары жылі на хутарох і ніхто ня меў ахвоты па вечарох упоцемку мясіць балота да клюбу, дзе ляжалі 2—3 газэткі і дзяжурны камсамолец з апаскаю паглядаў па бакох, баючыся розных страхаў, якія здаваліся яму і ў ціхім павеве ветру і ў шораху начное птушкі. У хуткім часе клюб «самазьліквідаваўся» і царква ператварылася ў прыпынак для начных птушак.

У Вялікіх Дольцах, Вушацкага раёну на Віцебшчыне сьвятара, які не заплаціў вялікага падатку, арыштавалі і саслалі. Зразумела, што царкву зачынілі.

У Сеньніцы пад Менскам, хаця сьвятар і застаўся, але царква была ператорная ў клюб. Пазьней, у 1937 годзе арыштавалі і былога настаяцеля «за агітацыю ў часе выбараў» (?!) і выслалі.

На Гомельшчыне, у прыгожай мясцовасьці ёсьць сяло Бывалькі, якое ляжыць на высокім беразе Дняпра. Бывалькаўская царква відаць далёка з Чарнігаўшчыны. Яе залатыя купалы можна было назіраць зь Любяча, Радуля і Рэпак. У гэтай сьвятыні былі дарагія старажытныя абразы, якія пазьней былі выкінуты і зьнішчаны, сьвятыня зьняважаная. Пазьней едучы паўзь яе, станавілася страшна і сорамна за тых, хто зьнішчыў нашу старасьвеччыну, хто ўтаптаў у балота нашу веру і нашу чэсьць.

На месцы, дзе ўпадае ў Дняпро Сож, на стыку былых Менскае, Магілеўскае і Чарнігаўскае губэрняў раськінуўся прыгожы гарадок Лоеў — буйны рачны порт з адзінай на Беларусі хвабрыкай мінэральных хварбаў. Яго насельніцтва дасягала да 10 тысяч. Тут былі дзьве царквы: Троіцкі сабор і Мікалаеўская царква. Лоеўчане, як і ўсе Беларусы, народ веруючы і свае сьвятыні трымалі ў пашане. Бальшавікі зьбіралі сходы, хадзілі з падпіснымі лістамі, агітавалі на вуліцах, каб зачыніць цэрквы, але гэта не дапамагала. Людзі не згаджаліся.

Тады ўночы раённае начальства на чале з Расейцамі Васільевам і Шаравам і Беларусам Палітыкам (зь Лепельшчыны, які цяпер зьяўляецца сябрам ЦК партыі Беларусі) уночы ўварваліся ў Троіцкі сабор і ў лютай ненавісьці пачалі зьнішчаць абразы і выкідаць іх на сьвінтар. Да раніцы ўсё было скончана. На сьвітаньні Васільеў палез на купал з чырвонаю анучаю. У момант вуліцы наўкол сабору запоўнілі лоеўчане: плытагоны, матросы, рабочыя і сяляне. Падняўся енк і плач. Разьяраны натоўп патрабаваў адказу за зробленае злачынства. Многія з начальства надоўга запамяталі гэты дзень, калі іхнія бакі былі пабіты і пад вачыма засталіся сінякі. Толькі выклікаеная конная паліцыя разагнала натоўп. Пазьней расказвалі, што лямант і плач пакрыўджаных людзей быў далёка чуцен на суседняй Чарнігаўшчыне.

Праз колькі дзён у менскай газэце «Зьвязда» была зьмешчана зацемка, што ўрад Беларусі, ідучы на сустрач жаданьням жыхароў гор. Лоева, задаволіў іх хадайніцтва аб зачыненьні Троіцкага Сабору і ператварэньні яго ў клюб. Якое нахабства, якая хлусьня!

Як было маною тое, што сабор зачынены па просьбе жыхароў Лоева, дык тым самым было і тое, што ён ператвораны ў клюб. Бальшавікі пабаяліся адчыніць яго там. Сьвятыня стаяла пасярод гораду, разграбленая з выламанымі дзьвярыма і вокнамі, наводзіла на ўсіх сум і жах.

Такім вось чынам бальшавікі распраўвіліся з рэлігіяй на Беларусі. Ад вытокаў Дзьвіны на поўначы, да ўтокаў Сожу на паўдні і ад Бугу на захадзе аж да Вугры на ўсходзе ляжыць наша Бацькаўшчына абсьмяяная і апляваная нашымі ворагамі.

Але хто сьмяецца і прадае нас і самога сябе цяпер, няхай памятае, што «сьмяецца той, хто сьмяецца апошні».

**В. Верасень**

**Юрка Віцьбіч**

# Плыве з-пад Сьвятое Гары Неман

(Працяг)

На Ігуменшчыне, у найвузейшым міжрэччы Пцічы і Сьвіслачы, ляжыць здаўна вядомае мястэчка Мар'іна Горка. Хаця тутэйшая царква і прысьвечаная Вусьпеньню Божае Маці, але ўсё-ж не мястэчка ад царквы, а царква ад ахунага паданьнямі назову мястэчка набыла сваё прысьвячэньне. Паводля аднаго народнага паданьня, тут яшчэ за даўнія часы быў на ўзвышшы язычкі могільнік зь вялізным камянём пасярэдзіне, вакол якога адбываліся трызны. Наш навуковец Шпілеўскі знайшоў у старадаўнім лісьце манаха Грозаўскага манастыра працяг гэтага паданьня, а менавіта — праяжджаў паўз трызны сьвятар-місіянер і абураны ёю акрапіў магільнік сьвятой вадой. Пасьля гэтага ўзвышша развалілася на дзьве часткі і ў прорву, што сталася на ёй, праваліўся камень. Запраўды, нібы пацьвярджаючы ліст грозаўскага манаха, узвышша, на якім цяпер стаіць Вусьпенская царква, мае выгляд раздвоенага. Паводля другога паданьня, у бліжэйшай вёсцы Лядцы жыў таксама за даўнія часы пабожны селянін Сідар. Ён цяжка захварэў і ніякае зельле яму больш не дапамагала, аж пакуль не зьявілася яму ў сьне Божая Маці. Яна абяцала яму вылячэньне, калі ён на тым узвышшы, дзе моляцца язычнікі, паставіць крыж і капліцу зь ейным абразом. Калі Сідар гэтае выканаў, дык адразу выздаравеў і рэштку свайго жыцьця пражыў паблізу капліцы.

Шмат іншых цудаў узьвялічылі абраз Мар'інагорскае Божае Маці. Наш народ з глыбокай верай расказвае, што калі каплічка пазьней не аднойчы згарала, дык абраз заставаўся ў цэласьці. Ён з тэй-жа шчырай верай прыгадвае, што калі ў 1812 г. Французы паспрабавалі зьняважыць абраз, дык асьлепнулі. І селішча, што зь цягам часу паўстала вакол каплічкі, а пазьней царквы на аблюбаваным Божай Маці узвышшы, атрымала назоў Мар'інае Горкі. Тысячы сялянаў за дзесяткі і сотні кілямэтраў зыходзіліся сюды кажную «маладзіковую нядзелю», каб ушанаваць абраз Божае Маці. Гэтае характэрнае для Беларусаў наагул сужыцьцё хрысьціянства зь язычтвам можа найбольш паказальна для Мар'інае Горкі, якая, перш чым стацца гэткай, зьяўлялася сьвятой для нашых прашчураў. Зьняважана цяпер Вусьпенская царква, перарobленая пад кінотэатр тутэйшага сельска-гаспадарскага тэхнікуму. Няма ведама, дзе цяпер цудатворны абраз, але, паводля найноўшага народнага паданьня, ён абавязкова абвесьціцца зноў. Ахоўвае Ігуменшчыну і ўсю Беларусь Мар'інагорская Божая Маці.

На рэчцы Ігуменцы, прытоку ракі Волмы, на старадаўных шляхох ад Чарнігава і Магілёва да Менску ляжыць горад Ігумен. Ці наўрад назоў гораду паходзіць ад рэчкі, бо яна вельмі плыткая, каб навет у старадаўныя часы стацца водным гістарычным шляхам. Мае таксама разьбежнасьць з праўдай і народнае паданьне, упяршыню і без камэнтараў зьмешчанае ў друку навукоўцам Д. Шэндрыкам. Паводля гэтага паданьня, на месцы цяперашняга возера, што знаходзіцца ў трох кілямэтрах ад гораду на бабруйскім шляху, калісьці было язычкае мольбішча, да якога адусюль зыходзіліся вялікія натоўпы. Адна падарожніца «манашка-ігуменьня з Афонскае Гары», пабачыўшы гэтае, зьвярнулася да сялянаў з прачулым словам, пасьля чаго яны пабудавалі на месцы мольбішча хрысьціянскую царкву, у якой неўзабаве зьявіўся цудатворны абраз Божае Маці. Праз нейкі час тубыльцы вырашылі зноў аднавіць язычтва, але калі пачалі адбудоўваць мольбішча паблізу царквы, тая правалілася і на ейным месцы сталася глыбокае возера, а цудатворны абраз зь яе апынуўся ў Лядзкім манастыры, што знаходзіцца ў 19 кілямэтрах ад Ігумену на менскім шляху. Менавіта ад гэтае ігуменьні з Афону нібы і атрымаў сваё імя Ігумен.

Запраўды вузкая паўвыспа на Эгейскім моры Афон або Сьвятая Гара мае каля 20 манастыроў, але ад веку паміж імі ня было ні аднаго жаноцкага. Суворы, тысячагадовы манастырскі статут не дазваляе ні аднэй жанчыне — ні царыцы, ні рабыні — наведаць Афон. Таму калі сын Міндоўга Вайшэлк або Лаўр, перш чым заснаваць Лаўрышаўскі манастыр каля Навагрудку, паломнічаў на Афон, дык сьвятая Еўфрасіньня-Прадслава ў часе свайго падарожжа на Сьвятую Зямлю яго абмінула. Аднак, калі Ігумен атрымаў свой прыгожы назоў не ад ігуменьні з Афону, дык у ўсякім разе ад ігумена і можа навет з таго самага Лядзкага манастыра, дзе запраўды з пачатку 18 стаг. перахоўваўся цудатворны абраз Божае Маці. Бальшавікі перайменавалі Ігумен у Чэрвень. Нам Беларусам няма аніякае падставы цешыцца з таго, што ў чэрвені 1920 г. у Ігумене польскіх акупантаў зьмянілі расейскія. Мы зь цяплынёй прыгадваем ігумена Лаўра ці Вайшэлка сына Міндоўга, ігумена Данілу Паломніка, ігуменьню сьвятую Еўфрасіньню-Прадславу Полацкую, ігумена сьвятога Апанаса Берасьцейскага, а разам зь імі таго нязнанага сьціплага ігумена, якога сан стаўся назовам нашага гораду Ігумена.

У Віцебску, спакідаючы з гулам Езувіцкі мост і, прарваўшыся паміж Альгердавай і Вусьпенскай гарамі, выбягае ўся запененая Віцьба на прастору, каб нарэшце далучыцца да хуткае Дзьвіны. За тысячагодзьдзі яна нацягнула сюды гэтулькі пяску, жвіру ды каменьня, што навет Дзьвіна ня здолела, падхапіўшы іх з сабою, пацягнуць далей і сама тут напалову звужэла. У 1865 г. і Віцебшчыну і Вокаўскі Лес наведаў сухмень, а таму абмялела Дзьвіна, што прымусіла Віцьбу капаць сабе ў сваіх наносах глыбейшае, чым заўсёды, рэчышча. І нечакана ўвесь вялікі горад ад Пескацiку да Лукішкаў, ад Юр'евае Горкі да Гутараўшчыны ўскаланула чутка — Віцьба адкапала ёю-ж калісьці пахаваны вялізарны камень, на якім быў гэткі-ж вялізны высечаны крыж, адшураваны пяском ды абмыты вадой.

Паводля прыпушчэньня некаторых навукоўцаў, магчыма якраз на гэтым камяні, які ў той час называўся Жыдоўскім, у 1435 г. князь Сьвідрыгайла спаліў Смаленскага мітрапаліта Гарасіма, у вадзнаку чаго пазьней на ім высяклі крыж. Пераважная бальшыня навукоўцаў даводзіла, што гэта адзін з шматлікіх бязіменных Барысавых камянёў — з крыжам, але бязь літараў, зь якіх бліжэйшы ляжаў адсюль усяго толькі ў 6 кілямэтрах паблізу Маркаўшчыны. Аднак народ надаў выкапанаму Віцьбай каменю назоў Ёзафатаў у імя Полацкага архіяпіскапа Ёзафата Кунцэвіча, забітага ў 1623 г. на Вусьпенскай гары. Пад гэтым назовам камень і вядомы цяпер паміж навукоўцаў.

Да самае асеньняе паводкі Дзьвіны, што пакрыла вадой наносы Віцьбы, хадзілі віцябляне дзівіцца на валун з крыжам. Яны спадзяваліся адведаць яго і ў наступны год, але дарма. Калі сплыла ўніз вясеньняя паводка, дык яны пабачылі, што Віцьба, закапаўшы сваё леташняе рэчышча, пракапала сабе ў сваіх наносах новае. З таго часу прайшло бяз малага сто год, павыміралі і тыя, хто бачылі Ёзафатаў камень, і дзеці іхнія, але рэчка штовясны, зьмяняючы рэчышча, тым ня менш ніколі не адкапала зноў таго самага каменя. Навет пазьней археалёгі, пракапаўшы свае глыбокія траншэі, да яго не дасталіся.

Шмат чаго бачыла рэчка Віцьба з таго часу, як нарадзілася з чыстых лясных крыніцаў, шмат народнай крыві, сьлёзаў і поту па ёй сплыло і пэўне знарок, каб перахаваць Ёзафатаў камень ад царскага і бальшавіцкага дынаміту, яна глыбака яго пад сабой тымчасова пахавала.

На Ельніншчыне, на рацэ Дзясьне ляжыць вялікае сяло Новаспаскае, што атрымала свой назоў ад Спаскае царквы. Гэтае беларускае сяло набыло сусьветную вядомасьць з тае прычыны, што ў 1804 г., у маёнтку паблізу яго, нарадзіўся Міхал Глінка. Ён, як кампазытар, адыграў у расейскай музыцы ролю раўназначную ролі Пушкіна ў расейскай літаратуры. Не падлягае сумлеву, што ў ягонай творчасьці знайшлі шырокі адбітак беларускія элемэнты і гэтае вызнаваў сам Глінка, падкрэсьліваючы: «Музыку піша народ, а мы, кампазытары, яе толькі аранжуем». Аднак, калі музыка запраўды спачатку зьяўлялася беларускай, дык аранжоўка яе паступова сталася вылучна расейскай. Калі «Камарынская», або — «жо-

# Аб Літоўскім Статуце

**С. Барысёнак. Нацыянальны характар Літоўскага Статуцуе 1529 году. «Полымя», 1927, № 6, бач. 139—156 № 7, бач. 136—157.**

**(Заканчэньне з папярэдняга нумару)**

У наступным V параграфе (бач. 152—153) аўтар пераконваюча даводзе, што ў Вялікім Княстве Літоўскім урадова й на практыцы ўжывалася мясцовае звычаёвае права.

Параграф VI (бач. 153—160) пасьвячаны праву **собскае Літвы,** каторая «абымала прыблізна ранейшыя Віленскую, усходнюю частку Ковенскай, Гарадзенскую, Менскую й Магілёўскую губэрні». Гэтай зямлі быў выданы Судовы Ліст Вялікага Князя Казімера 1468 г.[8]). Ён быў апрацаваны пашыраным пленумам рады Вялікага Княства. Судовы Ліст 1468 г. пасьвячаны пытаньням галоўна крымінальнага права й працэсу. Аўтар зазначае, што «у нас няма памяткі», падобнае да Смаленскае Праўды, каторую прыраўнаваўшы да Судовага Лісту можна было-б выявіць ягоныя асновы. Але ў вартыкулах Судовага Лісту пра зладзейства «ёсьць такія нормы, якія па духу свайму проста супрацьлежныя Рускай Праўдзе» (бач. 155). Вывад аўтараў: «Судзебнік 1468 г. ёсьць кодыфікацыяй мясцовага звычаёвага права, каторае дзеяла ў межах собскага «гаспадарства літоускага» (бач. 156), у межах тэрыторыі пасьлейшых (за Расеі) чатырох з гакам губэрняў.

Дарма, што ў праве Вял. Кн. Літоўскага панаваў поўны праўны сэпаратызм, «можна зацеміць у практыцы гаспадарскага суду задзіночвальны струмень — побач із мясцовымі звычаямі існавалі й ужываліся нормы, каторыя мелі агульна-гаспадарстваваe значэньне. Паходжаньне іх можна выясьніць часткава падобнасьцяй істоты нормаў, каторыя ўжываліся ў розных землях, часткава творчай работаю гаспадарскага суду (зн. суду Вялікага Князя), катораму прыходзілася шляхам прэцэдэнту стварацъ новыя нормы, якіх зусім ня было ў мясцовай звычаёва-прававай сыстэме». Аўтар із судовае практыкі часу папярэдняга статуту 1529 г. прыводзе некаторыя з гэтых нормаў. Прыкладам, удава, што ня вышла другі раз замуж, мела права карыстацца да сьмерці маемасьцяй свайго мужа.

З часам выясьнілася нявыгада праўнага сэпаратызму ў гаспадарстве. Аўтар выясьняе прычыны яе, каторымі былі няпэўнасьць нормаў звычаёвага права й надзвычайная іх разнастайнасьць, што «адбівалася на правасуднасьці, вытварала пачуцьцё няпэўнасьці рассудку, даючы магчымасьць злоўжываньня судзьдзяў». Гэтыя сталыя прычыны сталіся відавочнымі з развоем народнае грашовае гаспадаркі, што сталася ад самага пачатку з XVI ст. У 1501 г. урад у Валынскім зацьвярджальным прывілею выказаў пагляд, што ўжо насьпела патрэба замяніць мясцовыя звычаёвыя правы адзіным гаспадарствавым кодэксам. У 1514 г. на Вялікім Сойме ў Вільні ўсе станы выказалі жаданьне мець пісомыя правы. У 1522 г. на сойме ў Горадні гаспадар із панамі-Радаю «права ім прыраклі даці і як ся падданыі нашы маюць справаваці й радзіці». За колькі месяцаў, яшчэ ў тым-жа 1522 г. Статут быў гатовы, і гаспадар, будучы пэўны, што сойм яго прыме, выдаў эдыкт пра яго надрукаваньне. Але аказалася, што гаспадар пасьпяшыўся, бо сойм праект Статуту адкінуў. Адкінуў быў двойчы і ў 1524 г. — раз на сойме ў Вільні, другі **раз на сойме ў** Берасьці і адно ў 1529 г. «новыя правы» на сойме ў Вільні былі прынятыя. Аўтар ня выясьняе, чаму Статут 1529 г. ня быў надрукаваны пасьля яго прыйма соймам, дарма што яшчэ ў 1522 г. быў гаспадарскі загад пра яго надрукаваньне. Тэхнічных перашкодаў не магло быць, бо былі тады ўжо добрыя беларускія друкарні. Здаецца, што сойм уважаў яго за нясупоўны і дзеля таго адкладаў яго друк на пасьлейшы час, калі меў быць папоўнены. Зусім добры на свой час кодэкс, якім быў Статут 1529 ., ня досыць чыніў вымаганьням сойму. Навет вельмі высокае роўні статут 1566 г.[9]) сойму не задаволіў і сойм, прыняўшы яго, у тым-жа часе зрабіў пастанову пра яго паправу[10]). Супоўным з гледзішча сойму быў, запраўды яшчэ лепшы, Статут 1588 г., і ён оыў надрукаваны. Рассудкамі, каторыя былі прэцэдэнтамі на будучыню, не надрукаваны Статут папаўняўся.

Статут 1529 г. быў апрацаваны праўнікамі гаспадарскае канцылярыі, зн. канцылярыі В. Кн. Літоўскага. Апрацаваны за кароткі час. Дзеля пасьпеху аўтары мусілі карыстацца таксама гатовымі чужымі кодэксамі, якімі былі ім Вісьліцкі Статут і Саксонскае Глядзела. Але найболей яны карысталіся выракамі гаспадарскага суду. «Аднаго толькі жарала ня відаць у статуце — Рускае Праўды» (бач. 165). «З гэтае прычыны ня права Рускае Праўды павінна быць матар'ялам дзеля азначэньня нацыянальнага характару Статуту Літоўскага 1529 г., а звычаёвае права й судовыя прэцэдэнты ў пару беспасярэднюю мамэнту складаньня й выданьня Статуту 1529 г. . . із судовых справаў, што разглядаліся на гаспадарскім судзе. І, ведама, толькі да гэтых выракаў, а не да справаў мясцовых судоў маглі зварачацца аўтары Статуту, і тады ў усім сваім вялізарным значэньню высуваецца той факт, што праваднікам агульна-гаспадарствавай судовай палітыкі быў гаспадарскі суд, каторы дзеіў у сфэры Літоўска-Беларускага нацыянальнага права» (бач. 165).

Шкада, што аўтар у сваёй працы не разгледзіў прывілею 1447 г., у каторы ўвайшлі правы з канстытуцыяў — «радаў» асобных земляў беларускіх, пасьлей паўтораныя ў прывілеях гэным землям, і каторы быў унесены ў Статут 1529 г. і ў наступныя Статуты. Праўда, пры разглядзе артыкулаў Статуту аўтар адзначае прывілей 1447 г.

У параграфах IX—XIII (№ 7, бач. 136—153) аўтар разглядае артыкул па артыкуле разьдзелаў Статуту, раўнуе іх да выракаў гаспадарскага суду і да памяткаў праўнага характару і выясьняе, скуль яны маглі быць узятыя або што паслужыла за іхную аснову. Гэтак, «асноваю (першага разьдзелу) першага артукулу паслужыў прывілей 1447 г. Артыкулы 2—4 (таго-ж разьдзелу) выходзяць із разуменьня ўцёкаў да няпрыяцельскае зямлі, як гаспадарствавага выступу; яны жаралом сваім маюць заканадаўчы акт: «Уставу... на тых, хто-бы зраду над гаспадаром учыніў». Я ня буду адзначаць тут разгляду аўтарам кажнага артукулу, гэта чытач знойдзе ў ягонай працы. Вывады аўтаравы з гэтага прыраўнаньня наступныя:

«... у Статут Літоўскі ўвайшло права, каторае дзеяла ў галоўнай ягонай часьці, якраз у княстве Літоўскім у собскім сэньсе. Пры складаньню Статуту ня было выкарыстанае ані звычаёвае права засталых беларускіх земляў, ані права земляў украінскіх.

«Тэрыторыя собскага княства Літоўскага, ці, вярней, Літоўска-Беларускага — была тым месцам, адкуль ішлі творчыя плыні, што стваралі... права, каторае ўзвышалася над усімі засталымі мясцовымі звычаёва-праўнымі сыстэмамі. Гаспадарскі суд быў дзейнікам, што часткава выяўляў, часткава ўтвараў гэтае адзінае ўсяму Літоўскаму гаспадарству права... Пры калізіі права мясцовага з правам літоўска-беларускім, першае не заўсёды траціла сваю моц. Яго гаспадарскі суд паважаў, па магчымасьці лічыўся зь ім, але разам із тым, ня ведаў, ня мог ведаць, дый ня цікавіўся ім» (бач. 152).

Дарма, што Статут 1529 г. быў апрацаваны бюракратычным парадкам, «грамадзкая кантроля над кадыфікацыйнай работаю ўсё-ж такі была, выявіўшыся ў форме разгляду й зацьверджаньня праекту Статуту на вялікіх соймах. І калі Статут быў прыняты шляхтаю, дык выходзе, што яна ня прызнала ў ім нічога, што-б пярэчыла нацыянальнаму духу ўсіх складовых часьцяў літоўска-беларускага гаспадарства.

«Гэта сталася таму, што аўтары Статуту выкарысталі нормы права, каторыя ўжываліся гаспадарскім судом... тут якраз выявілася права агульна- гаспадарствавага значэньня, «старадаўны звычай **усяго** Вялікага Княства Літоўскага», на каторы спасылаліся стараны й суд, калі хацелі падставіць пад свае дамаганьні найаўтарытэтнейшыя праўныя фундамэнты». Да гэтых справядлівых вывадаў аўтаравых можна яшчэ дадаць, што ўперад, да задзіночаньня беларусіх земляў у вадным сваім гаспадарстве, у склад княстваў Полацкага (галоўна) і Смаленскага (у невялічкай меры) уходзіла каля дзьвюх трэйціх прасторы пасьлейшае собскае Літвы, ды гэную часьць Полаччыны тады складала цэнтральная, найбольш пасьлей у Вялікім Княстве Літоўскім уплывовая часьць собскае Літвы. Дык ня толькі беларускія землі Смаленская, Полацкая й Віцебская мелі ў XIII і XIV—XV стагодзьдзях сьцьверджаную аўтарам супольнасьць звычаёва-праўнае сыстэмы, але да ўтварэньня Вялікага Княства Літоўскага, а хіба й пасьлей, менаваная праўная супольнасьць обыймала таксама прынамся вялікую бальшыню тэрыторыі собскае Літвы.

Далейшы працяг вывадаў аўтаравых гэтакі: «... пры вылучна бюракратычным спосабе складаньня праекту Статуту, аўтары яго... уважалі-б сабе ў некаторай ступені дзіўным шукаць якога іншага

**(Заканчэньне на 4-ай балоне)**

# IV-ы Кангрэс Фэдэрацыі Вольных Журналістых

14—15 траўня г. г. адбыўся ў Лёндане IV-ы кангрэс Міжнароднае Фэдэрацыі Вольных Журналістых, якая аб'ядноўвае 15 нацыянальных журналістычных саюзаў з краін сярэдняе й усходняе Эўропы, а таксама балканскіх і балтыцкіх краін. Беларускіх журналістых на гэтым зьезьдзе рэпрэзэнтавалі а. Ч. Сіповіч, сп. Я. Курага-Скрага і П. Навара.

Пасьля адкрыцьця кангрэсу старшынём Фэдэрацыі Б. Вежбянскім, першым з прывітальным словам выступіў ведамы ангельскі публіцысты Малкольм Мэкрыдж, які ў сваёй прамове закрануў найбольш актуальныя праблемы сучаснае палітыкі і заданьняў вольных журналістых аб'яднаных у Фэдэрацыі.

Пасьля прамоваў барона Т. Радванжкага й рэд. М. Семчышына наступілі прывітаньні ад дэлегатаў нацыянальных групаў.

Як выглядала із справазданьняў старшыні Фэдэрацыі і Генэральнага Сакратара, Чэха Папірніка ды кантрольнае Камісіі, Урад Фэдэрацыі, ня гледзячы на цяжкае матар'яльнае паложаньне, праводзіў пасьпяхова колькігадовую працу на адрэзку перадусім вонкавых сувязяў. Гэтак, Фэдэрацыя была ў актыўнай сувязі з Арганізацыяй Аб'еднаных Нацыяў, якая прызнала ёй дарадчы статус (права прадстаўляць розныя матар'ялы й дакумэнты на разгляд ды ставіць адпаведныя прапановы), і такім чынам яна прадставіла гэтай сусьветнай арганізацыі ды ейным паасобным камісіям шэраг матар'ялаў, якія дакумэнтуюць мэтады паняволеньня ды ламаньня асноўных людзкіх праваў Саветамі. Гэты адрэзак дзейнасьці дапаўняўся кантактамі з УНЭСКО ды з г. зв. паза ўрадавымі арганізацыямі, якія працуюць пад апекай ААН у Жэнэве, зь Міжнародным Інстытутам Прэсы ў Цурыху і г. д. Апрача гэтага дэлегаты Фэдэрацыі прыймалі ўдзел у шматлікіх міжнародных імпрэзах, нарадах.

Па нутрана арганізацыйнай лініі Фэдэрацыя налічвае больш за 1300 сяброў, якія зарганізаваныя ў сваіх нацыянальных саюзах і працуюць па ўсіх вольных краінах ці то ў прэсе (у больш за 150 прэсавых пэрыёдыкаў, выдаваных нацыянальнымі групамі на эміграцыі), ці то ў рад'ёвай службе (як «Голас Амэрыкі», «Голас Канады», «Бі-Бі-Сі», радыё «Вызваленьне», радыё Рым, Мадрыд, Парыж і г. д.). Шмат журналістых, нажаль, працуюць не ў сваёй прафэсіі, а шмат зь іх навет як звычайныя работнікі.

Двухдзённыя нарады кангрэсу праводзіліся ў паасобных камісіях, у якіх і беларускія прадстаўнікі таксама ўзялі дзейны ўдзел. Прапанова, каб дасюлешні ўрад Фэдэрацыі із старшынём Б. Вежбянскім ды з усімі рэгіянальнымі адгаліненьнямі Фэдэрацыі (у Францыі, Швэцыі, Італіі, Нямеччыне, ЗША, Аўстраліі і Гішпаніі) далей выконваў свае абавязкі ў наступнай кадэнцыі, быў прыняты кангрэсам аднагалосна. Пры гэтым былі праведзены пэўныя нязначныя й неабходныя пэрсанальныя дапаўненьні у наступным складзе: рэд. Семчышын — як адзін з трох заступнікаў старшыні у Лёнданскай цэнтралі, др. Ст. Станкевіч і др. Л. Оргінскі — як сябры эгзэкутывы Фэдэрацыі на Нямеччыну, інж. А. Кішка — як сябра эгзэкутывы ў Гішпаніі і рэд. Мацях — як сябра кантрольнае камісіі.

На заканчэньне кангрэс прыняў шэраг рэзалюцыяў арганізацыйнага й статутовага характару, а таксама прыняў аднагалосна політычную рэзалюцыю, у якой, між іншага, гаворыцца:

«Чацьверты кангрэс Міжнароднае Фэдэрацыі Вольных Журналістых пацьвярджае яшчэ раз сваё глыбокае перакананьне, што мір і свабода непадзельныя, і што трывалае замірэньне між заходнімі дэмакрацыямі і камуністычнай Расеяй немагчымыя да таго часу, пакуль Эўропа застаецца напоўвольнай і напоўпаняволенай. Кангрэс моцна перакана765ны, што ў гэтай крытычнай стадыі гісторыі пасьляваеннае Эўропы Фэдэрацыя Вольных Журналістых мае адыграць важную ролю ахоўваючы справу нашых паняволеных народаў. Фэдэрацыя павінна змабілізаваць усіх сваіх сяброў і выкарыстаць усе магчымасьці, каб дэклярацыя з Потомака, якая кажа, што «тры заходнія вялікая дзяржавы ня ўвойдуць у такое паразуменьне ці ўмову, якая сьцьвердзіла-б ці прадоўжыла недабравольнае падпарадкаваньне калісьці сувэрэнных дзяржаваў», — будзе ня толькі датрыманай, але й дапоўнена пазытыўнай палітыкай, мэтай якое павінна быць поўнае вызваленьне ўсіх народаў паняволеных расейскім камуністычным імпэрыялізмам, ці якой-небудзь іншай формай камуністычнае дыктатуры».

---

луд расейскага сымфанізму» запраўды адбіла непакорлівасьць сялянаў Беларусаў вядомае яшчэ ў 17 стаг. Камарыцкае воласьці, што належыла сьпярша да Літвы, а пазьней, зьяўляючыся асабістай уласнасьцю цара Барыса Гадунова, паўстала супраць «своего барина», дык опэра «Жыцьцё за цара» варожая і чужая для нашага народу, адзін з найвыдатнейшых сыноў якога забіў цара. Таму зусім ня выпадкова ў Пушкіна пасьля гэтае опэры склалася экспронтам характарыстыка творчага шляху кампазытара:

«Ты не глинка,  
А фарфор».

Таму таксама ня выпадкова ў Смаленску ёсьць помнік з надпісам:

«Глинке — Россия. 1885 г.»

І пабачыўшы гэты помнік, мы прыгадваем з сумам безіменныя, даўно ўжо зраўняныя зь зямлёю магілкі, пад якімі ляжаць нашыя «Сымоны Музыкі». І што нам з таго, што Глінка па свайму паходжаньню Беларус? Паэта Мікола Вярба ў вадным з сваіх прачулых твораў зазначае пра Беларусь, што яна:

Міцкевічу была Літвой!  
Глінку і другім Русьсю.

— і ад імя свайго і ўсіх нас дадае —

А мне Ты чым,  
як я  
сын Твой?  
Чым?  
Мне над усё  
Сьвятых-Сьвятым.

Пераходзячы да тых селішчаў, што атрымалі свой назоў ад сялібаў рэлігійнага прызначэньня, прыгадваюцца Манастырок, два Пагосты і Сьціток. Калі тэрмін манастырок не патрабуе тлумачэньня, дык пад пагостам звычайна разумеюць селішча, што складаецца вылучна з парахвіяльнае царквы і будынкаў тых, хто адпраўляе ў ёй Божую Службу і вартуе яе. Сьціты звычайна ўзьнікалі паблізу ад манастыру ў лесе або ў пячорах — калі ў манастыр прыходзілі сьвецкія асобы, каб стацца манахамі, дык сьціты будавалі манахі, што жадалі яшчэ больш суворага, чым у манастыры, жыцьця і самоты.

На Барысаўшчыне, у гістарычным сяле Вяляцічах ёсьць на тутэйшай рэчцы выспа вядомая пад назовам — Манастырок. Вельмі магчыма, што тут калісьці быў манастыр, ад якога засталася старая драўляная царква. У ёй знаходзіўся цудатворны абраз Божае Маці, які паводля народнага паданьня ўпяршыню зьявіўся манахам, што прыйшлі зь Кіеву ў Вяляцічы. Да гэтага абраза сьцякаліся адусюль, асабліва ў «маладзіковыя надзелі», тысячы Беларусаў. На дарозе да царквы яны спакідалі мноства драўляных вотумаў, бо, як шчыра верыць народ, разам зь кінутым каля сьвятыні адбіткам ці выразкам часткі чалавечага цела зьнікае і тая хвароба, што да яго прычапілася.

Нашыя два Пагосты паступова ператварыліся ў мястэчкі, але захавалі ранейшыя назовы. Пагост на Ігуменшчыне, што ляжыць на рацэ Пагашчанцы, прытоку Бярозы, належыць да найбольш старажытных нашых мястэчкаў. Вядома, што ён зьяўляўся прыгарадам адзначанага на мапах 15 стаг. вялікага гораду Кукарава, які ляжаў ад яго на 8 кілямэтраў. Пагост на Случчыне, што ляжыць на рацэ Случы, ня менш старадаўны. Яшчэ ў 1617 г. ён перайшоў да Радзівілаў, як пасаг за апошняй з роду Слуцкіх-Алелькавічаў княгіняй Софіяй, што сталася пазьней нашай некананізаванай сьвятой і чые мошчы перахоўваліся ў Слуцкім Траецкім манастыры.

Сяло Сьціток знаходзіцца на Гомельшчыне, на беразе Сожа, і зьяўляецца рэшткай старадаўнага Цярэшкаўскага манастыра, заснаванага ў 1630 г. Зьнікнуў манастыр, але сьлед па ім застаўся ў назове Сьцітка. Аднак побач з добрым і сьвятым існавала благое і злачыннае. Яшчэ ў сярэдзіне мінулага стагодзьдзя ў ваколічнасьці Сьцітка каля вёскі Прыбыткі ўзвышалася на беразе ракі Вуці вялізная хвоя, вядомая ў народзе пад назовам Шыбеньніцы. Тут за часы Рэчы Паспалітае адбываліся найбольш лютыя кары. Найчасьцей пакаранаму разразалі жывот і, прыбіваючы выцягнутую кішку да хвоі, прымушалі потым бізунамі бегаць вакол яе. Можа й карча ўжо не засталося ад тае жудаснае хвоі, але ніякі палітык ня ў стане выкараніць яе з памяці народу, ад імя якога даў прысуд ягоны найвярнейшы сын узвышэнец Уладзімер Дубоўка ў сваёй паэме з адпаведным назовам «Плач навальніцы»:

І сьціскалася ў вусны  
нявыказнае  
гора  
і тапілася ў вачох  
часіна  
адплаты.  
Каб за тое за ўсё,  
што сягоньня  
і ўчора  
вогнішчамі  
абшары палатаць.

Сьвяты Жыватворны Крыж — вялікі сымбаль хрысьціянства, знайшоў адбітак у трох геаграфічных назовах — вёска Вольгін Крэст у ваколічнасьці Пскова, мястэчка Крэйцбург паблізу гораду Якабштадту на Дзьвіне і вялікае сяло Хрэст таксама на Дзьвіне, у 28 кілямэтрах вышэй Вяліжу. Вольгін Крэст і Крэйцбург пад ціскам з боку Расейцаў і Немцаў апынуліся паза нашай этнаграфічнай мяжой, але за тое маюць з намі гістарычную лучнасьць.

Калі кіеўскі летапісец зазначае: «О Пськове-граде от летописания не обретается вспомяну, то от кого создан бысть и которыми людьми», дык за тое архэалёгамі даўно ўжо даведзена, што тут жылі некалі Крывічы. Тое-ж самае пацьвярджаюць этнаграфы і мовазнаўцы. У летапісе за той час, у 903 г., у сувязі зь кіеўскім князем Ігарам прыгадваецца «приведоша ему жену от Пськова именем Ольгу». Паводля народнага паданьня, Вольга была перавозьніцай праз раку Вялікую ў сяле Выбуты пад Псковам, а згодна зь іншым паданьнем, ад яе атрымала свой назоў цяперашняя вёска Вольгін Крэст. Таксама і народнае паданьне і летапіс сьцьвярджаюць, што вядомую Віцебскую царкву Сьвятога Дабравешчаньня пабудавала княгіня Вольга. Запраўды сьпярша навуковец Паўлінаў, а потым Даўгяла і пазьней Шчакаціхін, дасьледуючы кладку гэтае царквы, прыйшлі да выснаву, што яна пабудаваная ў 10 стаг., а ў 14 стаг. перабудаваная князем Альгердам.

У 1237 г. крыжакі заснавалі на Дзьвіне замак Крэйцбург, Латышы пераклалі назоў цяперашняга мястэчка на Крустпілс, а яшчэ да крыжакоў і Латышоў тут існаваў полацкі прагарад — Крыжбор. Аб беларушчыне сьветчуць дагэтуль, апрача курганоў, яшчэ назовы найбольшых на Дзьвіне тутэйшых парогаў — Перакагрыж, Гусак, Бродыж і Ціхая Руба. Паміж дзьвінскіх плытагонаў ёсьць прыказка:

Прабег Янка Перакагрыж дый кажа —  
Браткі, Рыгу бачу.

Да Рыгі адсюль яшчэ 150 кілямэтраў і зразумела таму, як цяжка перамагчы грымотны Перакагрыж.

Расейская геаграфічная намэнклятура ведае сяло «Крест», але наш народ называе самае сяло і вялікія парогі паблізу яго — Хрэст. Існуе прыпушчэньне, нібы гэты назоў зьінaчыў у пачатку мінулага стагодзьдзя Расеец абшарнік Пціцын, які, паходзячы з Волгі, перайменаваў таксама свой маёнтак, што знаходзіўся ў трох кілямэтрах ад Хрэсту, у Жагулі. Аж да нашых дзён тутэйшыя сяляне прыгадваюць аб ім зь нянавісьцю. Дагэтуль на беразе Дзьвіны захавалася каменнае крэсла, на якім абшарнік звычайна сядзеў, аглядаючы прыгонных дзяўчат, што, паводля ягонага загаду, купаліся ў рацэ. Ён шырака карыстаўся таксама «правам першае ночы», пакуль нарэшце ня стаўся ахвярай яго. Яшчэ хлапчуком мне давялося наведаць змрочны навет з вонкавага выгляду палац у Жыгулях. У вадным зь ягоных пакояў быў вялікі пярсыдзкі дыван з рудымі ад крыві плямамі. Гэта на ім зьняважаны малады забіў сякерай абшарніка. І не аднойчы потым бачылі сяляне здані маладых, якіх замардавалі гайдукі перад палацам. Што дзіўнага, калі ў 20-ых гадох нашага стагодзьдзя тутэйшыя сяляне спалілі палац, але паданьне аб ім несьмяротнае. А можа і назоў — Хрэст паходзіць ад крыжа пакутаў, што разам з усім нашым народам несьлі на плячох там гаротнікі.

**(Далей будзе)**

# Супраць дэзінфармацыі

Часта прыходзіцца чытаць у нашым друку розныя недарэчныя, у галаве аўтараў створаныя, нябыліцы. Чытаеш і зьдзіўляешся, як у аўтараў хапае сьмеласьці выдаваць плод свае фантазіі за апісаньне рэальных фактаў. Асабліва гэта кідаецца ў вочы, калі людзі пішуць пра падсавецкае жыцьцё. А якраз тут трэба трымацца найбольш толькі праўды. Аднае чыстае праўды, рэальных фактаў гэтулькі, што зусім ня трэба нічога выдумляць, каб даць рэзка адмоўны абраз савецкае тэрарыстычнае дыктатуры. І наадварот, кажны не адпаведны рэчаіснасьці факт можа быць зброяй у руках савецкае прапаганды, каб у вачох лёгкадаверлівага Захаду скампрамітаваць антыбальшавіцкую працу палітычнае эміграцыі. Таму трэба быць асабліва асьцярожным у падачы кажнага факту зь гісторыі падсавецкае рэчаіснасьці. Толькі праўда, неразбаўленая і не падхварбаваная ніякай выдумкай, абапёртая на факты і запраўднасьць, можа служыць поўнацэннай зброяй у тым змаганьні ідэалёгіяў, якая цяпер разгарнулася ўва ўсім сьвеце і ўдзельнікамі якога мы зьяўляемся. Ня ведаю прычынаў неабазнанасьці аўтара артыкулу «Аб памылках там і тут», В. Верасьня, але магу напэўна сьцьвердзіць, што весткі, пададзеныя ім пра беларускага гісторыка Уладзімера Пічэту, дэзінфармуюць чытача і зусім не адпавядаюць праўдзе.

Няпраўдаю ёсьць сьцьверджаньне аўтара, што Пічэта атрымаў асьвету за мяжой, прыпушчальна ў Ангельшчыне. Уладзімер Пічэта, пасьля сканчэньня гімназіі ў Палтаве ў 1898 годзе, паступіў у Маскоўскі ўнівэрсытэт. Там ён вучыўся пад кіраўніцтвам ведамых гісторыкаў Ключэўскага, Вінаградава, Ражкова і Багаслоўскага. У 1901 годзе Пічэта скончыў унівэрсытэт з дыплёмам першае ступені. Ягоная кандыдацкая праца атрымала высокую ацэну Ключэўскага. У 1910 годзе Пічэта здаў магістэрскі эгзамен і быў зацьверджаны ў годнасьці прыватдацэнта. Але з 1911 г. па 1918 г. не працаваў у ўнівэрсытэце ў знак пратэсту супраць палітыкі міністра асьветы Кассо. Займаўся навуковай працай у галіне гісторыі славянскіх народаў, выдрукаваў за гэты час цэлы шэраг каштоўных працаў зь гісторыі. Ужо ў 1910 г. стварыў вялікую працу — навуковы нарыс Гісторыі Вялікага Княства Літоўскага да Люблінскай вуніі ўлучна. У 1918 г. за двухтомную манаграфію «Аграрная палітыка Сігізмунда Аўгуста ў Літоўска-Рускай дзяржаве» Пічэта атрымаў годнасьць доктара гістарычных навукаў. У тым годзе вярнуўся да выкладчыцкай працы, ў унівэрсытэце. У 1921 годзе Ўладзімер Пічэта становіцца рэктарам Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Пачынаецца ягоная найбольш плённая праца ў галіне гісторыі права, гаспадаркі, эканомікі і культуры Беларусі і Літвы. У 1924 г. выйшла ягоная праца «Гісторыя Беларусі да канца XVI ст.» у 1925 г. — «Гістарычная доля Заходняй Беларусі», у 1926 г. — «Полацкая зямля ў пачатку XVI ст.» у 1927 г. — «Гісторыя сельскай гаспадаркі і земляўласьніцтва на Беларусі да канца XVI ст.» і шмат іншых працаў.

Дарма што Пічэта па крыві ня быў Беларусам (па бацьку — харвацкага паходжаньня), але за часы ягонага рэктарства Беларускі Дзяржаўны Ўнівэрсытэт ператварыўся ў запраўдную кузьню новае беларускае інтэлігенцыі. Пічэта ўсё рабіў, каб яго зьбеларусізаваць, сам гаварыў толькі пабеларуску, дарма што з акцэнтам, чытаў лекцыі і прыймаў залікі ў студэнтаў толькі пабеларуску. Вылі выпадкі, калі зьніжаў ацэну студэнту за няведаньне беларускае мовы. Вось за гэта Пічэта і трапіў у першую хвалю арыштаў беларускіх нацыянал-дэмакратаў у скляпеньні ГПУ і неўзабаве атрымаў пяць гадоў адміністрацыйнае ссылкі ў Вятку (Кіраў), а зусім ня ў Калыму «дабываць золата», як гэта беспадстаўна цьвердзіць В. Верасень у сваім артыкуле. І зусім няпраўдаю ёсьць сьцьверджаньне, што Пічэту вызваліў быццам-бы сам Сталін, каб зрабіць прыемнасьць нейкаму чужынцу, дэлегату вучоных «тэй краіны, дзе вучыўся калісь Пічэта». Толькі неабазнанасьцяй, у лепшым выпадку, або занадта вялікай даверлівасьцю да абывательскіх плётак можна выглумачыць тое, што аўтар сур'ёзна падае наступнае: «На прыёме ў Сталіна адзін зь іх зьвярнуўся да «бацькі народаў» з просьбаю спаткацца зь сябрам па ўнівэрсытэту, Пічэтам. Сталін даручыў свайму сакратару выклікаць Пічэту. Даведаўшыся, што апошні ў ссылцы, Сталін сказаў яго сябру, што быццам Пічэта цяпер знаходзіцца ў навуковай камандыроўцы і яго выклічуць у Маскву да таго моманту, калі яго замежны сябра будзе варочацца зь Ленінграду, куды ён павінен быў паехаць разам з дэлегацыяй пасьля прыёму ў Сталіна».

«У той-жа дзень на Калыму, дзе знаходзіўся Пічэта, выляцеў лятак, які і даставіў прафэсара ў Маскву. Там яго пагалілі, памылі, падхарчавалі, апранулі і пазьней зьвялі зь сябрам, сурова наказаўшы пра выгнаньне не памінаць».

Каму патрэбная гэтая легэнда аб «добрым даравальніку» грахоў палітычным ворагам, міф аб гуманным Сталіну?

А на справе зусім ня Сталін вызваліў Пічэту з выгнаньня ў Вятцы, а проста Пічэта адбыў свой тэрмін ссылкі, пасьля яшчэ колькі гадоў марнеў у правінцыі звычайным выкладчыкам. І толькі ў 1939 годзе Пічэта змог вярнуцца ў Маскоўскі ўнівэрсытэт. На Беларусь-жа дарога яму была паранейшаму адрэзаная, бо там ён паранейшаму ўважаўся шкодным, а яго працы былі забароненыя. У маскоўскім унівэрсытэце ён спатрэбіўся таму што ў канцы трыццытых гадоў у сувязі з падрыхтоваю да вайны ўзрасла патрэба на спэцыялістых славянаведы. А Пічэта ў гэтых адносінах быў незраўнаным ні зь кім з сучасьнікаў вучоным — славянаведам. У часе вайны і асабліва пасьля яе Пічэта запачаткаваў і ўзначаліў працу Інстытуту Славянаведы Акадэміі Навук СССР і арганізаваў катэдру славянаведы пры Маскоўскім Унівэрсытэце. Праз гэта стаўся яшчэ больш знаным у сьвеце, як выдатны славянавед. Праўда, што Пічэта быў абраны сябрам — карэспандэнтам Акадэміі Навук СССР. Акрамя гэтага яго аднавілі ў годнасьці акадэміка Беларускай Акадэміі Навук у Менску. Аднак зьвярнуцца на ягоную другую бацькаўшчыну гэтаму вялікаму вучонаму Беларусі гэтак і не давялося. Аднак ягоныя архівы, што былі знайдзеныя пасьля сьмерці, сьветчаць, што вучоны ніколі ня перапыняў дасьледчай і творчай працы на беларускія тэмы. Сярод рукапісаў на розныя тэмы з галіны славянаведы пераважаюць тэмы беларускія. Знайдзена вялікая колькасьць рукапісаў, прысьвечаных Беларусі, яе гісторыі, гісторыі яе культуры, адраджэньня, нацыянальнага руху, нашаніўскаму пэрыяду і г. п. Аднак Саветы не сьпяшаюцца іх друкаваць. Іх проста перадалі ў архіў славянаведы пры Акадэміі Навук СССР у Маскве.

Гэтая вытрываласьць Пічэты ў прысьвяце сябе беларускай тэматыцы да канца свайго пачэснага жыцьця і плённае дзейнасьці сьветчыць аб нязломнай волі беларускага навукоўца працаваць на добро беларускага народу. А гвалтоўнае адлучэньне Пічэты на працягу сямі гадоў ад непасрэднае навуковае дзейнасьці ды ссылка, як і заўсёдная забарона зьвярнуцца на працу ў Беларусь, ляжыць цяжкім абвінавачаньнем бальшавікоў. І няма ніякае патрэбы зьмякчаць яго ды выдумляць легенду пра ўяўную ролю Сталіна ў вызваленьні Пічэты. Такога выпадку проста ня было.

А памёр Пічэта ня ў 1946 годзе, як піша той-жа аўтар, а ў 1947 г. Аб гэтым пішацца ў нэкралёзе ў часапісе «Вопросы истории» № 7, 1947, бал. 157-158.

Такім чынам, бадай-што ўсе факты адносна Пічэты ў артыкуле В. Верасьня не адпавядаюць праўдзе. Ці можна пасьля гэтага давяраць і іншым фактам, пададзеным гэтым аўтарам?

Пара ўжо ў васяродзьдзі нашых журналістых абвесьціць рашучае змаганьне за адказнасьць аўтара, супраць хвальшаваньня фактаў і праўды.

**Чытач**

# Кукурузная хвароба

**(Заканчэньне з 7-ай балоны)**

ячменю, аўса і іншых збожжавых культураў. Калгасы Беларусі абцяжаныя пасевамі і іншых важных культураў. У гэтым годзе паводля пляну трэба засеяць ня менш аднаго мільёну гэктараў бульбы. Беларуская рэспубліка дае 15 працэнтаў усяго агульнага збору бульбы ў СССР. Пасеўная плошча пад лён таксама павялічваецца на 44 тысячы гэктараў. Калгасы садзяць цукровыя буракі, каб забясьпечыць Ськідэльскі цукровы завод патрэбнай сыравінай, садзяць махорку і кок-сагыз. Усе гэтыя культуры знаходзяцца пад асаблівай апекай і наглядам. Значыцца, плошчы пасеваў пад імі ня будуць зьменшаныя, а наадварот, навет пашыраныя. Бульба, лён, цукровыя буракі, махорка, кок-сагыз патрабуюць ураджайных глебаў, угнаеньня і вялікіх затратаў цяжкае працы.

Таму зусім зразумела, што патрабаваньні партыі і ўраду засеяць 400 тысячаў гэктараў кукурузаю калгасы Беларусі сустрэлі з трывогай і бяз энтузіязму. Калгасы разам зь іхнымі кіраўнікамі ў розных хвормах супраціўляюцца і ўхіляюцца ад сеяньня кукурузы. Вось некалькі характэрных фактаў:

«Да галоўнага агранома МТС Казлова зьвярнуўся старшыня калгасу „Пражэктар" Лёзьненскага раёну Віцебскай вобласьці Глядчанка з запытаньнем, як павялічыць колькасьць угнаеньня пад кукурузу. Казлоў, не задумаўшыся, параіў угнойваць кукурузу за лік значных скарачэньняў угнаеньня пад бульбу і іншыя культуры. Трэба думаць, што Глядчанка і іншыя кіраўнікі калгасаў катэгарычна адкінуць гэтую шкодную раду», — адзначае «Советская Белоруссия» 16 красавіка сёлета. У пошуках ураджайных земляў пад кукурузу партыйныя і савецкія кіраўнікі раёнаў прымушаныя шукаць яўна незаконных спосабаў адшуканьня адпаведных земляў і часта прыносяць шкоду калгасам. «Советская Белоруссия» за 28 сакавіка сёлета падае такі факт:

«У шэрагу калгасаў Берасьцейскага раёну плянуюць разьмясьціць пасевы кукурузы на прысядзібных вучастках, а калгасьнікам адвесьці зямлю для прысядзібных вучасткаў на палёх калгасаў». Такі паганы спосаб адшуканьня адпаведных земляў пад пасевы кукурузы выкліканы страхам перад адказнасьцю за правал кукурузнай кампаніі.

Савецкая прэса, гэтая паслухмяная зброя камуністычнай партыі, не сароміцца абвінавачваць калгасы ў нядбайных адносінах да кукурузы. Вось як аб гэтым пісала «Советская Белоруссия» 28 сакавіка:

«Супраціў сцэптыкаў набывае панічныя хвормы й сцэптыцызм іх знаходзіць розныя праявы. Старшыня калгасу імя Сталіна Бярозаўскага раёну Віткоўскі ня супраць кукурузы, але ён лічыць, што калгас можа адвесьці толькі 6 гэктараў пад кукурузу. У калгасе «Шлях да сацыялізму», імя Талбухіна і другіх разьлічвалі пад кукурузу заняць толькі 15 гэктараў, тлумачучы, што „няма падходзячых глебаў". Між тым у калгасах засяваюць значныя плошчы аўсом, які дае нізкі ўраджай».

Дастаткова гэтых фактаў, каб пераканацца, што такое недарэчнае пашырэньне пасеваў кукурузы на Беларусі сустрэлася із замаскаванымі хвормамі супраціву.

Цэнтральны камітэт КПСС і савет міністраў СССР 21 травеня сёлета абвесьцілі пастанову «Аб павышэньні зацікаўленасьці калгасьнікаў і работнікаў трактарных брыгадаў МТС у павялічэньні вытворчасьці кукурузы ў 1955 г.» Пастанова прадугледжвае дадатковую аплату кукурузнымі кіяхамі й сілосам калгасьнікам, трактарыстам МТС, брыгадзірам,якія працуюць пры кукурузе, старшыням, аграномам і зоотэхнікам калгасаў. Гэтая пастанова абвешчаная якраз у канцы пасеўнай кампаніі. Партыя і ўрад спадзяюцца шчодрымі ўзнагародамі паралізаваць супраціў. Аднак недавер да гэтай няпэўнай у беларускіх умовах культуры, якая павінна выратаваць жывёлагадоўлю і разьвязаць збожжавую праблему ў СССР, ня будзе зьліквідаваны. Гэтыя надзвычайныя экспэрымэнты камуністычнай партыі ўжо ня раз прыходзілася перажываць прыгоннаму селяніну Беларусі.

**В. Будзімер**



# Бойня у Ліенцы

**(Заканчэньне з 2-ой балоны)**

тых хто прабаваў ратавацца ўплаў. Жаўнеры вырывалі дзяцей з рук матак і кідалі ў грузавікі; маткі, прабуючы адабраць дзяцей, атрымоўвалі ўдар палкай і, схопленыя за галаву й ногі, кідаліся ўслед за дзяцьмі. Крык натоўпу, што чуваць быў за пяць кілямэтраў ад лягеру, заглушаў частыя стрэлы. Паходныя аўтары былі разьбітыя, чашы з Дарамі валяліся па зямлі; затоптаныя ў пыл, зьмяшаныя з крывёй, ляжалі іконы й харугві.

60 таварных вагонаў з прычэпленымі дзьвюма плятформамі, запоўненымі ўзброенымі да зубоў шатляндзкімі стралкамі, адыйшло ўжо вечарам у кірунку на Шпітталь. З шчылінаў падлогі вагонаў цуркам лілася кроў.

Два зьнішчальнікі, 25 танкаў, 21 лёгкая гармата, 310 аўтаматчыкаў, 125 кулямётаў, 215 матацыкляў з аўтаматчыкамі ды паасобныя пяхотныя аддзелы прынялі ўдзел у гэтай бойні.

Людзі, парваўшы ўсе заставы, кінуліся ўгоры. лясы, у сьнягі на вяршынях гораў. 86 чалавек замёрзлых прывезьлі пазьней у Ліенц. Спэцыяльныя аддзелы каралеўскіх гвардзейцаў накіроўваліся ў горы, дзе «палявалі» на ўцалелых Казакаў, дзяцей і жанчын.

Па Драве плылі трупы, і пры адным масьце, затрымоўваючыся пры сваях, даслоўна затамавалі цячэньне рэчкі. Мясцовы сьвятар, вывесіўшы чорны сьцяг на званіцы, загадаў званіць у набат ды сабраць жыхароў вёскі для вылоўліваньня трупаў і хаваньня іх. Каля 600 чалавек скончыла жыцьцё самагубствам.

Цэлы чэрвень ішлі эшалоны, вывозячы Казакаў у Расею. Так закончыў сваё йснаваньне Казацкі Стан. Выданыя былі таксама й усе Казакі баёвых аддзелаў. На мосьце каля гораду Юдэнбург Казакаў перадавалі ў рукі МВД. Шмат зь іх кідалася з мосту, разьбіваючыся на сьмерць. Тут-жа, на левы бок ад шасы, знаходзілася сталёўня, куды заганялі Казакаў ды дзе днём і ночай, пад гул заведзеных матораў, ішлі расстрэлы. Пяць сутак спальваліся трупы ў печах заводу. Чорны дым, які паваліў з даўно ня дыміўшых комінаў, абвесьціў жыхаром рабочага пасёлку аб тым, што тварылася ў сталёўні. Толькі 16-га ліпеня, пасьля таго, як адыйшоў з сталёўні апошні транспарт з Казакамі, што засталіся жывымі, сюды прывезлі «Ost-abak', каб, як выказаўся адзін расейскі ахвіцэр, «пачысьціць завод ад казацкіх паразітаў».

Каля 160 тысяч Казакаў, жанчын, дзяцей, старых, інвалідаў, раненых і хворых было выдана бальшавіком, ня лічачы, прыкладам, Казакаў 3-га Кубанскага Палку, якія, адмовіўшыся ладавацца, былі перабітыя з кулямётаў.

Ня зьлічыць адзінокіх магілаў у горах, абрывах і сьнягох Карынтыі й усходняга Тыролю.

Сталінск, Пракоп'еўск, Тырганскі Ўклон... Дзесяткамі ўдзень памiралі Казакі ў расейскіх лягерах. У Тырганскім Уклоне, дзе лягер зь зямлянак будавалі яны самі сабе, за першы месяц памерла 900 асобаў. Дэзынтэрыя й дыстрофія касілі людзей бязь ліку. У лягеры Зеньково з 1 500 асобаў, на працу магло выходзіць толькі 50; іншыя хварэлі й паміралі.

У газэце «Таймс» з 14-га траўня 1952 году, нейкі Освальд Штэйн, называючы сябе «адным з ахвіцэраў, галоўным чынам адказных за выкананьне загаду былога ўраду Яго Вялікасьці аб рэпатрыяцыі палонных», цьвердзіць, што рэпатрыяваныя былі толькі тыя, хто, будучы савецкім грамадзянінам 3-га верасьня 1939 году, падняў зброю супраць свае краіны пасьля гэтае даты, а таксама тыя, якіх абвінавачвалася ў ваенных злачынствах і калі гэтыя злачынствы былі прызнаныя ангельскім урадам. Так піша Освальд Штэйн, ангельскі ахвіцэр. Але калі ды якім судам ці «скрынінгам» былі прызнаныя злачынствы жанчын і дзяцей, раздушаных танкамі ў лягеры Пэггец — Штэйн, ня піша. Ня піша таксама, чаму былі выданыя Казакі й ахвіцэры — старыя эмігранты. Ня піша, што зь ліку выданых ахвіцэраў толькі 36% маглі лічыцца былымі грамадзянамі СССР. Ня піша, чаму былі выданыя ген. Красноў і Султан Келеч Гірэй, чаму быў выданы ген. Шкуро, кавалер ангельскага ордэну Лазьні. Шмат чаго не дапісаў Освальд Штэйн...

**П. Палякоў**

# Аб Літоўскім Статуце

**Заканчэньне з 3-ой балоны)**

матар'ялу, чымся той, што быў у іх пад рукамі ў сваім архіве, у выглядзе расъсудкаў гаспадарскага суду.

«Такім парадкам, калі рассудкі й звычаёвае права, што ўвайшлі ў Статут, мелі моц найперш у собска-літоўска-беларускім княстве (краіне) і цераз гаспадарскі суд пашыралі свой уплыў на тэрыторыю ўсяго гаспадарства, дык тым самым разьвязваецца й пытаньне аб нацыянальным характары Статуту Літоўскага ў 1529 г. Гэта было права тых этнаграфічных элемэнтаў, зь якіх пераважна складалася собскае Княства Літоўскае, зн. права літоўска-беларускае, каторае ўвабрала ў сябе й ладную часьць чужаземнага права, галоўна права польскага» (бач. 153). У самым канцы аўтар дадае: «звычаёвае права Статуту Літоўскага 1529 г. ёсьць права літоўска-беларускае, а дзякуючы таму, што гэтае жарало пераважаючае, дык і ўвесь Статут Літоўскі можна назваць памяткаю права літоўска-беларускага (пераважна беларускага)» (бач. 157, № 7 «Полымя»).

Вялічыню беларускае праўнае перавагі ў Статуце Літоўскім 1529 г. зразумеем, калі зьвернем увагу, што ў собскай Ліцьве — тэрыторыі пасьлейшых (за Расеі) чатыры з гакам губэрняў — беларуская тэрыторыя складала каля 4/5. Зь лятувіскае тэрыторыі ня толькі ня ўходзіла ў собскую Літву Жмуйдзь, але навет ня ўся Аўкштота ўходзіла, ды Аўкштота была працята беларускім элемэнтам. З культурнага-ж гледзішча Лятувісы далёка былі астаўшыся ад Беларусаў. Маючы наўвеце менаванае, можна наагул сумлявацца, што ўвайшло якое-колечы лятувіскае звычаёвае права ў Статут Літоўскі[11].

Як можна было бачыць, праца аўтарава ёсьць высокай навуковай роўні. Можна дадаць, што праф. С. Барысёнак, ведамы ў гістарычнай літаратуры як аб'ектыўны дасьледвальнік[12]. Адзінай заганаю разгледжанае ягонае працы ёсьць тое, што Вял. Кн. Літоўскае ён уважае не за вылучна гаспадарства беларускае, але за лятувіска-беларускае, і што назоў «ліцьвіны» тарнуе вылучна да Лятувісаў, калі тымчасам у разгляданую ім пару, ды ўперад і пасьлей, гэтым назовам галоўна зваліся Беларусы — у вужшым сэньсе Беларусы собскае Літвы, а ў шырэйшым і ўсе іншыя Беларусы. Адылі ў гэтых прыпадках праф. Барысёнак передае пагляды й спосаб выказваньня іншых аўтараў, а не як рэзультат свайго собскага дасьледваньня.

**Я. Станкевіч**

---

[8]) Аўтар завець гэтую праўную памятку «судзебнікам», словам узятым із расейскае літаратуры, але абмаўляецца, што назоў гэты чужы праўнай мове В. Кн. Літоўскага. Сам «акт» завець сябе «лістом», як наагул звалі дакумэнты ў урадавай мове стара-беларускай. Дзеля яснасьці я дадаю да слова «ліст» прыметнік «судовы».

[9]) І. Лаппо. Литовский Статут 1588 г., т. І-1, Коўня 1934, бач. 156.

[10]) Там-жа, бач. 159.

[11]) Дзеля таго, што Лашчанка паводля мовы даводзіў, што Статут Літоўскі ёсьць памяткаю ўкраінскага права, аўтар на бач. 153—156, апіраючыся на моваведных аўтарытэтах, паказаў, што моваю Статуту была мова беларуская.

Відавочна, памылкай у друку ёсьць на бач. 155 (№ 7 «Полымя»), што ў 1597 г. польская мова становіцца юрыдычнаю моваю Вял. Кн. Літоўскага, бо на наступнай бачыне чытаем, што «толькі ў самым канцы XVII ст. яна (беларуская мова) была выцесьнена із судоваадміністрацыйнае практыкі польскаю моваю». Заміж «1597 г.» павінна было быць «1697 г.»

[12]) Leo Okinshevich. The Law of the Grand Duchy of Lithuania. New York, 1953, бач.28.